БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

5 ліпеня 1994 г.
Аўторак
№ 72(13789)
Кошт у розніцу 100 рублёў
Выдаецца з 1921 года

**У НУМАРЫ:**



*Малюе Віктар ДУБОВІК*



## Кур'ер "ЧЗ"

### Ва ўрадзе рэспублікі

*Савет Міністраў Беларусі прыняў пастанову "Аб недахопах у забеспячэнні насельніцтва рэспублікі харчовымі таварамі". У ёй адзначаецца, што пры наяўнасці ў рэспубліцы дастатковай колькасці мясных і малочных рэсурсаў дапушчаны перабоі ў гандлі мясам буйной рагатай жывёлы, птушкі, каўбаснымі вырабамі і малочнай прадукцыяй.*

За непрыняцце своечасовых мер па забеспячэнню вытворчасці і пастаўцы рынку ў неабходных колькасцях прадуктаў жывёлагадоўлі і іншых харчовых тавараў, бесперабойнаму забеспячэнню імі насельніцтва рэспублікі Савет Міністраў строга ўказаў намесніку міністра сельскай гаспадаркі і харчавання А.Зяневічу і намесніку міністра гандлю Т.Крывені.

Аблвыканкамам сумесна з Мінсельгасхарчам дадзена даручэнне забяспечыць завоз у г. Мінск мяса і мясапрадуктаў у запланаваных аб'ёмах, а таксама ўзяць на ўлік і кантроль работу ўсіх мясаперапрацоўчых цэхаў, забяспечыць максімальнае выкарыстанне іх магутнасцей і своечасовую рэалізацыю вырабляемай прадукцыі.

Прынята рашэнне аб водпуску беларускай сталіцы ў ліпені г.г. з дзяржрэзерву 960 тон масла.

Мінсельгасхарчу дазволена павялічыць з 30 чэрвеня 1994 г. на 20 працэнтаў закупачныя цэны на мяса птушкі і яйкі для кампенсацыі павелічэння выдаткаў вытворчасці, выкліканых падаражаннем камбікармоў.

Мінгандлю, Мінсельгасхарчу, аблвыканкамам і Мінскаму гарвыканкаму даручана:

* арганізаваць праверку абгрунтаванасці прадстаўляемых прадпрыемствамі гандлю заявак на мясныя і малочныя прадукты і выканання гэтых заявак пастаўшчыкамі. Кіраўнікоў прадпрыемстваў гандлю, якія дапусцілі адсутнасць указаных тавараў у продажы, — прыцягваць да адказнасці, аж да вызвалення ад займаемай пасады або разрыву дагавораў арэнды з калектывамі;

* абавязаць падведамныя прадпрыемствы ў першачарговым парадку ажыццяўляць разлікі з пастаўшчыкамі мясной і малочнай прадукцыі, іншых сацыяльна значных харчовых тавараў;

* прыняць тэрміновыя меры па неадкладнаму атрыманню прадпрыемствамі аптовага гандлю прадукцыі жывёлагадоўлі ад прадпрыемстваў малочнай прамысловасці і закладцы яе на міжсезонны перыяд.

Урад абавязаў Міністэрства ўнутраных спраў прыняць меры па спыненню спекуляцыі, гандлю ў неўстаноўленых месцах харчовымі таварамі, продажу іх пры дастаўцы ад пастаўшчыкоў да месца рэалізацыі і навядзенню парадку ў гэтай справе.

. Дэпартаменту эканамічнага кантролю пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь і Дзяржаўнаму мытнаму камітэту даручана зрабіць больш жорсткім кантроль за захаваннем устаноўленых норм водпуску харчовых тавараў, забяспечыць няўхільнае выкананне патрабаванняў заканадаўства, асноўных правіл вядзення рознічнага гандлю і гандлёва-вытворчай дзейнасці на тэрыторыі рэспублікі і вывазу прадуктаў харчавання за яе межы.

Аблвыканкамам прадпісана разгледзець балансы рэсурсаў мясных прадуктаў, якія складваюцца ў абласцях да канца года, і часова прыпыніць заключэнне кантрактаў на вываз гаспадаркамі жывёлы, мяса і мясапрадуктаў за межы рэспублікі.

**Служба інфармацыі ўрада Рэспублікі Беларусь.**

### Зноў вырашыць большасць

*Як паведамілі ў Цэнтральнай камісіі па выбарах прэзідэнта рэспублікі, другі тур галасавання адбудзецца, калі зноў не менш як палавіна ўсіх выбаршчыкаў, унесеных у спісы для галасавання, "ахвяруюць" сваім выхадным днём і прыйдуць 10 ліпеня на выбарчыя ўчасткі.*

Для таго, каб хто-небудзь з двух кандыдатаў стаў прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь, неабходна сімпатыя большасці прыняўшых удзел у галасаванні.

### Прэм'ер мяняе каманду

*Прэс–сакратар Старшыні Савета Міністраў рэспублікі Вячаслава Кебіча Уладзімір Замяталін пацвердзіў, што "каманда", якая працуе з Вячаславам Францавічам, напярэдадні другога тура галасавання істотна змянілася ў параўнанні з той, якая была на першым этапе.*

Назваць "новых" людзей прэс-сакратар не палічыў патрэбным, аднак сказаў, што абнаўленні закранулі ў асноўным тых, хто аказаў прэм'еру "мядзведжую" паслугу, шырока прапагандуючы яго перадвыбарную праграму на тэлебачанні і радыё.

### Аляксандр ЛУКАШЭНКА: "Стаўка на КДБ па ўсёй вертыкалі"

*"Я хацеў бы бачыць у органах Камітэта дзяржаўнай бяспекі абаронцаў нашага народа", — гэтымі словамі кандыдат у прэзідэнты Аляксандр Лукашэнка завяршыў сваю сустрэчу з калектывам КДБ, якая адбылася 1 ліпеня.*

Звяртаючыся да прысутных, ён адзначыў, што "85-87 працэнтаў супрацоўнікаў Дзяржбяспекі — гэта сумленныя і вельмі прыстойныя людзі", з якімі ён гатовы супрацоўнічаць, калі будзе выбраны кіраўніком дзяржавы і выканаўчай улады. Паставіўшы прыярытэтным напрамкам сваёй праграмы барацьбу з карупцыяй і мафіяй, Лукашэнка бачыць сваю апору, перш за ўсё, у органах КДБ. "Стаўка на КДБ будзе зроблена па ўсёй вертыкалі", — сказаў кандыдат. Ён адзначыў, што разгону КДБ або скарачэння кадраў пад выглядам рэформ не будзе, за выключэннем тых супрацоўнікаў, якія скампраметавалі сябе і павінны будуць пакінуць пасады. Калі органам Дзяржбяспекі спатрэбяцца дадатковыя сілы, то, паводле слоў кандыдата ў прэзідэнты, гэта будзе зроблена. Ён таксама паведаміў, што пры прэзідэнце прадугледжваецца стварыць спецыяльны камітэт, які возьме пад кантроль вышэйшы эшалон улады.

**БЕЛІНФАРМ.**

### Нашы ў Беластоку

*У ліпені амаль 20 вучняў, якія на працягу навучальнага года наведвалі гурток польскай мовы пры Астравецкім дзіцяча–юнацкім цэнтры, змогуць адпачыць у лагеры, што арганізаваны для іх у Беластоку.*

Ініцыятарам такога своеасаблівага заахвочвання і паездкі выступіла мясцовае аддзяленне Саюза палякаў Беларусі.

Праграмай паездкі прадугледжваюцца экскурсіі па гарадах суседняй рэспублікі, знаёмства з іх сённяшнім і мінулым, помнікамі архітэктуры і іншым. Мяркуецца таксама праводзіць сумесна з польскімі школьнікамі вечары адпачынку, пазнавальныя дыскусіі па літаратуры і гісторыі Польшчы.

У жніўні—верасні Астравец наведаюць беластоцкія школьнікі.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

### Вогнішча, крупнік і песні

*50–годдзе вызвалення Беларусі супала сёлета з традыцыйным народным святам — Купалле.*

Купалле — гэта каляндарнае свята самага вялікага дня і самай кароткай ночы.

У ноч з пятніцы на суботу вялікая група беларускай моладзі (студэнты, рабочыя, інтэлігенцыя) аблюбавалі маляўнічы куток ў вязынскім лесе, расклалі вогнішча з паблізу знойдзенага буралому і далі волю сваім пачуццям. Былі традыцыйныя купальскія песні, карагоды, скокі цераз агонь, купанне ў рацэ, вылоўліванне вянкоў, пушчаных дзяўчатамі. Быў, зразумела і крупнік, які "талакоўскія" дзяўчаты і хлопцы неперадузыдзена варыць з настою зёлак, мёду і спірту. Прычым, пілі яго з адмысловага керамічнага збана, пушчанага па кругу.

Вогнішча згасла каля трэцяй гадзіны ўранку, калі сталічная моладзь рушыла на першую электрычку.

**Вітаўт МАРТЫНЕНКА.**

### Курсы валют на 4 ліпеня:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 24840 | 25600 | 15450 | 16000 |
| "Прыюр" | 25000 | 25300 | 15700 | 15800 |
| "Белбізнесбанк" | 24900 | 25800 | 15100 | 16000 |

## ПАСЛЯ ПАДЗЕІ



**2—3 ліпеня Беларусь святкавала 50-годдзе вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Карэспандэнты БЕЛІНФАРМа і "Чырвонай змены" перадаюць з месца падзей:**

### Вечная ўдзячнасць вам, вызваліцелі!

*Золатам і серабром баявых ордэнаў і медалёў заблішчаў 2 ліпеня Палац спорту беларускай сталіцы. Больш як сем тысяч былых франтавікоў, партызан і падпольшчыкаў прыйшлі сюды, каб адзначыць 50–годдзе вызвалення роднай Беларусі ад нямецка–фашысцкіх захопнікаў.*

*У Прэзідыуме ўрачыстага сходу разам са Старшынёй Вярхоўнага Савета Беларусі Мечаславам Грыбам, Старшынёй Савета Міністраў Вячаславам Кебічам, праслаўленымі военачальнікамі Вялікай Айчыннай вайны, удзельнікамі беларускай наступальнай аперацыі "Баграціён" знаходзіліся кіраўнікі і члены ўрадавых дэлегацый Расійскай Федэрацыі на чале са Старшынёй урада Віктарам Чарнамырдзіным, іншых дзяржаў садружнасці, суседняй Літвы.*

*На ўрачыстасці былі запрошаны прадстаўнікі дзяржаўных і грамадскіх арганізацый і прадпрыемстваў, духавенства, пасольстваў і консульстваў краін блізкага і далёкага замежжа гарадоў–пабрацімаў, першай Польскай пяхотнай дывізіі імя Касцюшкі, авіяпалка "Нармандыя—Нёман".*

*Сход адкрыў Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Мечаслаў Грыб. З дакладам выступіў Старшыня Савета Міністраў Вячаслаў Кебіч. Подзвіг салдат, афіцэраў, генералаў і маршалаў 1–га Прыбалтыйскага і трох беларускіх франтоў, адважных партызан і падпольшчыкаў, якія ажыццявілі наступальную аперацыю "Баграціён", падкрэсліў прэм'ер–міністр, упісаны не толькі ў гісторыю Вялікай Айчыннай і II сусветнай войнаў. Гэта яркая і трагічная вяха ў сусветнай гісторыі, якая і сёння напамінае: людзі, будзьце пільнымі, не дапусціце на зямлі паўтарэння глабальнага кровапраліцця! Мільёнамі жыццяў лепшых сыноў і дачок усіх народаў былога Савецкага Саюза заплачана за свабоду Беларусі, усёй вялікай дзяржавы. Памяць аб героях бессмяротная, пакаленні беларусаў назаўсёды захаваюць у сэрцах падзяку вызваліцелям.*

*(Заканчэнне святочнага рэпартажу на 2-й стар.).*

## ВЫБАРЧЫ МАРАФОН

# Першы тур як рубеж

**□ Барыс САФРОНЕНКА**

*З пункту гледжання высокай палітыкі, паводле вынікаў першага тура прэзідэнцкіх выбараў, можна зрабіць наступныя вывады: беларускі народ не вельмі давярае ні крайне правым, ні крайне левым. У гэтым і заключаецца, на мой погляд, на сённяшні дзень беларуская народная мудрасць, якая зарыентавана на паступовае стварэнне, а не на хуткае разбурэнне, на карпатлівую работу па аднаўленню парадку ў прымальных, больш–менш ужо вядомых формах, а не на эксперыментах палітычнага,эканамічнага і нацыяналістычнага планаў.*

Як гэта ні дзіўна, але пры ўсёй рэзкасці процістаяння ў ходзе перадвыбарнай барацьбы Кебіча і Лукашэнкі палітычныя ўстаноўкі гэтых кандыдатаў блізкія, пераклікаюцца па многіх пазіцыях. Абодва яны, перш за ўсё, за ўзмацненне дзяржаўнага ўплыву на эканоміку рэспублікі і за саюз з Расіяй. Іншая справа, наколькі цэнтрысты Кебіч і Лукашэнка будуць мець рацыю, ці хопіць у іх сіл, мудрасці, палітычнага разліку, энергіі, каб ажыццявіць намечанае і вывесці рэспубліку з крызісу, мінуючы падводныя рыфы? А іх вельмі многа, гэтых рыфаў. Да якой ступені магчымы і пажаданы саюз з Расіяй? Па-мойму, абодва кандыдаты ў душы згодны на вельмі цесны саюз, аж да перапляцення са сваёй суседкай. Абодва выступаюць, у канчатковым выніку, за аб'яднанне грашовых сістэм і не вельмі перашкаджаюць нават кантролю Нацыянальнага банка Расіі за фінансамі нашай рэспублікі. Такую пазіцыю можна зразумець, у Расіі інфляцыя спыняецца, і паспяхова без сыравіннага расійскага рынку беларускай эканоміцы не абысціся. Біч сённяшняга дня – высокія цэны на энергарэсурсы, і на што не пойдзеш, каб цэны гэтыя знізіць да ўзроўню, з якога можна пачынаць эканамічнае адраджэнне. Але калі, у рэшце рэшт, фінансы Беларусі будзе поўнасцю кантраляваць Расія, то да чаго тады звядзецца роля беларускага парламента? Бо Нацыянальны банк Расіі будзе слухаца расійскую Дзяржджуму, а не беларускі Вярхоўны Савет? Ці існуе тая мяжа, не пераходзячы за якую, Беларусь зможа адрадзіць эканоміку, захоўваючы ў той жа час палітычны суверэнітэт? Ці можна яе знайсці, а знайшоўшы, балансаваць на ёй, захоўваючы незалежнасць?

Цікава і вось што. Якім бы дрэнным ні быў Жырыноўскі, яго партыя перамагла на выбарах у Дзяржджуму Расіі, сыграўшы на пачуцці нацыянальнай гордасці, на ідэі нацыянальнага самасцвярджэння. У нас – наадварот, сілы, якія выступаюць за адраджэнне, народ не падтрымаў. Гэта значыць, народ, па сутнасці, гучна заявіў, што для яго парадак вышэй за нацыянальную ідэю. Ведаючы, што такі вывад не спадабаецца многім і могуць быць нараканні на аўтара, але расстаноўка сіл пасля першага тура выбараў сведчыць менавіта пра гэта. Народ прагаласаваў за рускамоўных кандыдатаў, прыхільнікаў саюза з Расіяй і праціўнікаў БНФ. Ва ўсякім разе, будучы прэзідэнт мае права разлічваць, што любыя яго крокі па збліжэнню з Расіяй аж да поўнага з ёй зліцця не выклічуць вялікага процідзеяння ў народа.

Не ўсё так проста і адносна барацьбы з мафіёзнымі структурамі ў рэспубліцы. Мафія – гэта не асобныя бандыцкія фарміраванні, супраць якіх паслаў войскі, мабілізаваў народ – і святкуй перамогу, і не частка ўладных вярхоў, якую змяніў – і справе канец. Амаль любы чыноўнік раённага маштабу па сваіму службоваму становішчу схільны быць карумпіраваным, таму што ад яго хоць што-небудзь ды залежыць. Прадаставіць памяшканне кааператыву, размеркаваць дзяржаўныя сродкі, дзяржаўную маёмасць ці гуманітарную дапамогу на сваім тэрытарыяльным участку, даць камусьці дазвол. А паколькі сёння пракарміць сябе сумленнай працай амаль што немагчыма, то лагічна меркаваць, што крадуць усе пагалоўна, і асабіста ў мяне, напрыклад, перакананасць Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі, што 85 працэнтаў чыноўнікаў – сумленныя, выклікае вялікія сумненні. Наіўным здаецца і перакананне некаторых, што толькі багаты, знаходзячыся на чале ўлады, не будзе падтрымліваць мафіёзныя структуры, таму што ён, маўляў, забяспечыў сябе і ўнукаў. Па-першае, багацце, як і хлеб, не прыядаецца, яго хочацца ўсё больш і больш, уся гісторыя чалавецтва пра гэта сведчыць. Па-другое, мафія – не дама, якую можна кінуць па загаду сэрца ці пад уплывам капрызу і нават неабходнасці, што вынікае з дзяржаўных меркаванняў, яна моцна трымае ў руках усіх, хто заключыў з ёю альянс, і проста так ад сябе не адпускае. Сёння для мафіі час залаты. Яе жывіць і ўсеагульная няўпэўненасць у будучыні, і груваcткасць дзяржструктуры, і псіхалогія чыноўнікаў – ад самага дробнага да самага вялікага, якія імкнуцца ні ў якім разе і ні за што на свеце не пакінуць нікога і нічога без свайго ўплыву. І галоўнае, на мой погляд, слабасць, нераспрацаванасць, расплывчатасць і, калі хочаце, залішняя дэмакратычнасць законаў. Каб перавярнуць такую глыбу неспрыяльных фактараў, трэба мець характар Івана Грознага ці, на благі канец, Пятра Вялікага.

Адно ясна: напярэдадні другога тура хто б з прэтэндэнтаў ні стаў прэзідэнтам, яму прыйдзецца неймаверна цяжка. Якія б ні былі льготы і ўлада, звязаныя з гэтай пасадай, яны не кампенсуюць і дзесятай долі тых складанасцей і той адказнасці, якія трэба будзе праявіць прэзідэнту, каб навесці парадак у рэспубліцы.

## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

Дзяжурныя па выпуску перакладчыкі Людміла КАХАВЕЦ, Віктар КАПАЧЭЛЬ, рэдактар Якаў ЯСЭПКІН.

### "Еўраньюс"

#### У агні броду няма

*У Паўднёвым Йемене адчуваецца вялікі недахоп пітной вады.*

Пры тэмпературы паветра звыш 40°C у разбураным горадзе Адэне могуць памерці ад смагі тысячы жыхароў.

Тым часам працягваюцца баі паміж Поўднем і Поўначчу. Пры налёце паўночных самалётаў загінула 17 чалавек. 9 з іх намагаліся выкапаць студню.

#### Кітайска–германскія перамовы

*Кітайская ўрадавая дэлегацыя прыбыла ў Германію на 6–дзённую сустрэчу.*

### "Суперчэннэл"

У цэнтры перамоў — эканамічныя адносіны паміж Кітаем і Германіяй. Тут ёсць пэўныя праблемы. Многія дэпутаты бундэстага выказалі кітайскай дэлегацыі папрок у тым, што Пекін парушае правы чалавека. "У першую чаргу мы павінны захоўваць правы чалавека, а потым ужо клапаціцца аб умацаванні эканамічных сувязяў", — сказаў дэпутат бундэстага Штэфан Шварц.

#### Забойства футбаліста

*Калумбія смуткуе з выпадку трагічнай смерці футбаліста нацыянальнай зборнай Андрэса Эскоба.*

27-гадовы спартсмен быў забіты на вуліцы горада Медзім, каля рэстарана 12-цю стрэламі. У цырымоніі пахавання ўдзельнічалі 120 тысяч калумбійцаў.

#### Нападзенне на французскі канвой

*У Руандзе мела месца сутыкненне паміж французскімі салдатамі і мяцежнікамі з патрыятычнага фронта.*

Апошнія пачалі весці агонь па французскім канвоі, які эвакуіраваў 55 салдат і 70 мірных жыхароў. Было абстраляна 15 французскіх машын. Руандзійскія мяцежнікі заявілі, што ім не патрабуецца гуманітарная дапамога, прапанаваная

### "Уорлднэт"

Францыяй. Нягледзячы на сутыкненні, эвакуацыя завяршылася паспяхова. Эвакуіравана 700 дзяцей-сірот і 270 мірных жыхароў.

#### Катастрофа ў ЗША

*З–за моцнага дажджу і навальніцы пацярпеў катастрофу самалёт тыпу DC–9.*

Загінула 37 чалавек, 20 пасажыраў атрымалі цяжкія раненні, але засталіся ў жывых. Пасля таго, як машына "скасіла" некалькі дрэваў, яе часткі паваліліся на драўляны будынак. Цяпер ідзе падрабязнае расследаванне прычын трагічнага здарэння.

### "TV-5"

#### Ахвяры спякоты

*Надзвычай моцная спякота ўсталявалася ў Італіі. Маюцца чалавечыя ахвяры.*

4 чалавекі памерлі ўжо ў выніку спякотнай навалы. Тэмпература паветра ў Рыме ў цяні +37°C, што значна больш за шматгадовыя паказчыкі. Паводле прагнозу сіноптыкаў, такое надвор'е захаваецца да канца тыдня. Ад спякоты пакутуюць і турысты, якія для ахалоджвання выкарыстоўваюць усе водныя збудаванні.

*(Працяг на 3-й стар.).*

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

